

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№96(609) 21 мая 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 618816 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## Вкратце

**Вчера Станислав Шушкевич встретился с сопредседателем конференции по мирному урегулированию югославского кризиса Лордом Оуэном и министром иностранных дел Норвегии Турвалдом Столтенбергом.**

Затем зарубежные гости провели переговоры с руководителем дипломатического ведомства Беларуси Петром Кравченко.

❑

**Третье пленарное заседание межпарламентской ассамблеи государств — участников СНГ откроется в Петербурге 23 мая.**

Будут обсуждаться вопросы регулирования информационных отношений, таможенные правила и иностранные инвестиции.

❑

**Борис Ельцин намерен созвать 5 июня конституционное совещание, которое должно завершить работу над президентским проектом Конституции.**

Ельцин вчера встречался с лидерами областей и краев России для обсуждения будущей Конституции.

❑

**Вчера в Лондоне начались официальные переговоры между представителями России и группы западных банков-кредиторов.**

В повестке встречи — вопрос о пересмотре графика выплаты части российской задолженности, составляющей 15 миллиардов долларов.

❑

**Министр иностранных дел России Козырев и госсекретарь США Кристофер встречались вчера в Вашингтоне.**

Обсуждались разногласия по поводу путей урегулирования боснийского конфликта.

❑

**Вчерашней ночью в южнокорейском городе Кванжу около 40 человек получили ранения в результате столкновения полиции с сотнями участников студенческой демонстрации, которые пытались захватить здание американского культурного центра.**

❑

**Местонахождение пассажирского самолета "Боинг-727", который в среду исчез в воздушном пространстве Колумбии, остается неизвестным.**

Есть версия, что самолет не потерпел катастрофу, а был захвачен воздушными пиратами и угнан в неизвестном направлении.

## Нашли то, не знаю что...

**На загадочный предмет наткнулись, вскапывая огород, жители деревни Тросница Полоцкого района.**

Небольшой — примерно метр на полтора — металлический контейнер с маленькой капсулой на одной из стенок, покрытых защитной смазкой, весит более трех тонн!

Радиации не излучает, взрывоопасным, по мнению саперов, не является. Распечатать доставленную во двор райотдела милиции находку не решается никто, ждут, когда контейнер будет просвечен специальным прибором.

**Сергей ДВИНСКИЙ.**

## Крыша загорелась в полдень

**Ремонт цеха обойдется Минскому рессорному заводу в копеечку.**

Крупный пожар случился в полдень в цехе товаров народного потребления. Как нам стало известно, при сварочных работах загорелась кровля. Причины пожара и ущерб от огня уточняются.

**Антон ЧЕКОВ.**

*Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Аб парадку дня дванаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

Уключыць у парадак дня дванаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання наступныя пытанні:

1. Аб праектах законаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю (Асноўны Закон) Рэспублікі Беларусь (т. 7, с. 118).

2. Аб праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

3. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб аднясенні на ўнутраны дзяржаўны доўг Рэспублікі Беларусь часткі ўнутранага доўгу былога СССР перад насельніцтвам, запазычанасці ўрада рэспублікі перад Агрампрамбанкам і іншых сум" (т. 4, с. 74).

4. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовых падатках і зборах у Рэспубліцы Беларусь" (т. 2, с. 71).

5. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце" (другое чытанне) (т. 4, с. 79).

6. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў Рэспубліку Беларусь грамадзян Рэспублікі Беларусь" (другое чытанне) (т. 7, с. 27).

7. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове здароўя" (другое чытанне) (т. 8, с. 32).

8. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь" (другое чытанне) (т. 7, с. 137).

9. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унутраным дзяржаўным доўгу Рэспублікі Беларусь" (другое чытанне) (т. 4, с. 69).

10. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб узмацненні барацьбы са злачынствамі ў сферы эканомікі і з карупцыяй" (другое чытанне) (т. 5, с. 129).

11. Аб кампенсацыі затрат, панесеных сельскай гаспадаркай у 1992 годзе ў сувязі з лібералізацыяй цэн на прамысловую прадукцыю (работы, паслугі).

12. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб страхаванні" (другое чытанне) (т. 2, с. 78).

13. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб Камітэце бяспекі Рэспублікі Беларусь" (другое чытанне) (т. 5, с. 3).

14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь" (другое чытанне) (т. 4, с. 2).

15. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унутраных войсках Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь" (другое чытанне) (т.5, с. 43).

16. Справаздача Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь аб рэалізацыі грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь за 1992 год і даклад аб асноўных напрамках грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 1993 год (т. 1, с. 53).

17. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб пажарнай бяспецы і дзяржаўным пажарным наглядзе" (другое чытанне) (т. 5, с. 68).

18. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" (т. 9, с. 68).

19. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб зацвярджэнні пераліку грамадскіх фондаў, арганізацый і асацыяцый, якія ажыццяўляюць дабрачынную, экалагічную і аздараўленчую дзейнасць (т. 9, с. 2).

20. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб стварэнні Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь для вывучэння дзейнасці камерцыйных структур, якія дзейнічаюць пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання" (т. 8, с. 19).

21. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб балансе і размеркаванні прыбытку Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, зводным балансе банкаўскай сістэмы Рэспублікі Беларусь за 1992 год" (т. 2, с. 62).

22. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб закладзе" (т. 7, с. 2).

23. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб адвакатуры" (другое чытанне) (т. 7, с. 72).

24. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб наданні граніцы Рэспублікі Беларусь статуса Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь" (т. 6, с. 66).

25. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб праве ўласнасці на зямлю" (т. 6, с. 39).

26. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб Дзяржаўнай падатковай інспекцыі ў Рэспубліцы Беларусь".

27. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб зацвярджэнні пераліку прадпрыемстваў (аб'яднанняў), арганізацый і відаў маёмасці, якія не падлягаюць раздзяржаўленню і прыватызацыі".

28. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб зацвярджэнні Палажэння аб Фондзе сацыяльнай абароны".

29. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку кампенсацыі страт, нанесеных суб'ектам гаспадарчай дзейнасці незаконнымі дзеяннямі дзяржаўных органаў і іх службовых асоб".

30. Аб правядзенні абавязковага рэспубліканскага рэферэндуму па важных пытаннях унутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці рэспублікі.

31. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб ліміце знешняга дзяржаўнага доўгу на 1993 год" (т. 1, с. 93).

32. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб парадку куплі-продажу кватэр (дамоў)".

33. Зацвярджэнне каштарыса расходаў, звязаных з дзейнасцю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і яго органаў, народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь.

34. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб бюджэце Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці на 1993 год".

35. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб павелічэнні колькасці пагранічных войск Рэспублікі Беларусь".

36. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб зацвярджэнні Дзяржаўнай праграмы прыватызацыі на 1993 год".

37. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб імянных прыватызацыйных чэкавых кніжках у Рэспубліцы Беларусь" (другое чытанне).

38. Інфармацыя Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб ходзе выканання пункта 4 пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 9 красавіка 1993 года "Аб дакладзе Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шушкевіча С.С. "Аб становішчы рэспублікі і аб важных пытаннях яе ўнутрыпалітычнай і знешнепалітычнай дзейнасці".

39. Аб ратыфікацыі міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь (арыенціровачны пералік дагавораў прыкладаецца).

40. Аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з прапановамі органаў і асоб, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы (арыенціровачны пералік праектаў прыкладаецца).

41. Кадравыя пытанні.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

18 мая 1993 г.

г. Мінск.

N 2317-XII

*Дадатак да пункта 39*

## Арыенціровачны пералік міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь

1. Пагадненне паміж краінамі — удзельніцамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў аб статусе Стратэгічных сіл (Мінск, 14 лютага 1992 года).

2. Пагадненне аб сумесных мерах у адносінах да ядзернай зброі (Алма-Ата, 21 снежня 1991 года) (т. 3, с. 4).

3. Пагадненне паміж урадамі краін — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў аб узгодненых прынцыпах падатковай палітыкі (Масква, 13 сакавіка 1993 года) (т. 3, с. 8).

4. Пагадненне паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Расійскай Федэрацыі аб падатковай палітыцы (Масква, 20 ліпеня 1992 года) (т. 3, с. 12).

5. Пагадненне паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Казахстан аб падатковай палітыцы (Алма-Ата, 16 верасня 1992 года) (т. 3, с. 15).

6. Пагадненне паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Рэспублікі Польшча аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання даходаў і маёмасці (Мінск, 18 лістапада 1992 года) (т. 3, с. 20).

7. Канвенцыя аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах (Мінск, 22 студзеня 1993 года).

8. Пагадненне аб заснаванні Міждзяржаўнага банка (Мінск, 22 студзеня 1993 года) (т. 1, с. 71).

9. Пагадненне паміж Рэспублікай Беларусь і Украінай аб узаемным прызнанні правоў і рэгуляванні адносін уласнасці (Мінск, 22 студзеня 1993 года) (т. 3, с. 99).

10. Дагавор паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай аб прававой дапамозе па грамадзянскіх і крымінальных справах (11 студзеня 1993 года) (т. 3, с. 76).

11. Пагадненне па пытаннях, звязаных з аднаўленнем правоў дэпартыраваных асоб, нацыянальных меншасцей і народаў (Бішкек, 9 кастрычніка 1992 года) (т. 3, с. 108).

12. Канвенцыя аб біялагічнай разнастайнасці (Рыо-дэ-Жанейра, 5 чэрвеня 1992 года) (т. 3, с. 44).

13. Пагадненне аб сумеснай дзейнасці ў адносінах да гуманітарнай дапамогі, якая паступае з-за мяжы (Мінск, 22 студзеня 1993 года) (т. 3, с. 93).

14. Канвенцыя Міжнароднай арганізацыі працы N 26 "Аб стварэнні працэдуры ўстанаўлення мінімальнай заработнай платы" (30 мая 1928 года) (т. 8, с. 211).

15. Канвенцыя Міжнароднай арганізацыі працы N 144 "Аб трохбаковых кансультацыях для садзейнічання прымяненню міжнародных працоўных норм" (21 чэрвеня 1976 года) (т. 8, с. 215).

16. Канвенцыя Міжнароднай арганізацыі працы N 150 "Аб рэгуляванні пытанняў працы: роля, функцыі і арганізацыя" (26 чэрвеня 1976 года) (т. 8, с. 205).

*Дадатак да пункта 40*

## Арыенціровачны пералік праектаў заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь

1. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь" (т. 1, с. 2).

2. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб арэндзе".

3. Аб праектах законаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь".

4. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб прадпрымальніцтве ў Рэспубліцы Беларусь".

5. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб увядзенні ў дзеянне Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб зямлі".

6. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб таварных біржах".

7. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве".

8. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь" (т. 1, с. 9).

9. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь".

10. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб статусе народнага дэпутата мясцовага Савета народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь".

11. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мінімальнай заработнай плаце і дзяржаўных гарантыях у галіне аплаты працы".

12. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб пенсіённым забеспячэнні".

13. Аб праектах законаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях (т. 7, с. 134).

14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб статусе народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь" (т. 1, с. 14).

15. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні дапаўненняў у Часовае палажэнне аб забеспячэнні дзейнасці народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь".

16. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь" (т. 2, с. 28, 33; т. 6, с. 69; т. 7, с. 119; т. 8, с. 174).

17. Аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь, якія рэгулююць рэабілітацыю ахвяр палітычных рэпрэсій у 20—80-я гады і аднаўлення іх правоў (т. 6, с. 37).

18. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўнай пошліне".

19. Аб праектах законаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь.

20. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь".

21. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь" (т. 7, с. 62).

22. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўным натарыяце".

23. Аб праекце пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў у пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб некаторых мерах, якія вынікаюць з эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы".

24. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты аб грамадзянстве".

25. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб плацяжах за зямлю".

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Моў на свеце шмат, але родная адна... Ці ж трэба з гэтай ісцінай спрачацца?

**Мікалай ГАЛКО**

Тое, што сесія пачала паартыкульны разгляд праекта Канстытуцыі — ужо само па сабе добрая прыкмета. Калі законы нараджаюцца ў пакутах, то для найвышэйшага юрыдычнага акта гэта характэрна ўтрая. Прагноз аб тэрміне завяршэння працы маласуцяшальны: многія дэпутаты схіляюцца да думкі, што цяперашні склад Вярхоўнага Савета не зможа прыняць новую Канстытуцыю.

Так, адзін з кіраўнікоў аб'яднання "Беларусь" народны дэпутат Генадзь Казлоў, выказаўшы папрок у адрас БНФ, які, на яго думку, тарпедуе праект, зрабіў выснову, што прыняцце Канстытуцыі магчыма толькі шляхам рэферэндуму.

Народны дэпутат Уладзімір Заблоцкі лічыць, што штучна абмежаваны правы дэпутатаў, ад якіх зараз не прымаюцца папраўкі, таму час ад часу дыскусія носіць зацяжны характар.

І ўсё ж, нягледзячы на процілеглыя палітычныя погляды, на адсутнасць некалькіх дзесяткаў дэпутатаў, праца ідзе. Тое, што найбольш прынцыповыя артыкулы не атрымліваюць кваліфікаванай колькасці галасоў — гэта зразумела, зрабіць рашучы крок з першага разу немагчыма.

Застаецца, напрыклад, адкрытым артыкул аб асновах эканамічнай дзейнасці чалавека.

Як і чакалася, востры абмен узаемнымі прэтэнзіямі адбыўся вакол пытання аб дзяржаўнай мове. Дэпутаты Міхаіл Качан, Іван Авін, Мікалай Лакцюжын і іншыя адстойвалі інтарэсы рускай мовы. Нехта хоча надаць ёй дзяржаўны статус, нехта назваць сродкам міжнацыянальных зносін.

Цікава прывесці выказванне старшыні пастаяннай камісіі Міхаіла Слямнёва пра вынікі сучасных сацыялагічных даследаванняў дзвюх груп сацыёлагаў. Адны сцвярджаюць, што большасць людзей супраць сістэмы калектыўнай бяспекі, другія — наадварот. Слямнёў прывёў жарт каўказскага навукоўца: "Які анкет — такі атвет" і, перайначыўшы выраз У.Леніна, які некалі называў сацыёлагаў дыпламаванымі лакеямі папоўшчыны, сказаў, што яны служаць розным партыям, і гэта ўплывае на быццам бы навуковыя вынікі.

Зноў гучаў аргумент, што ветэраны дэпутаты патрабуюць двухмоўя, а іх, маўляў, у грамадстве 30 працэнтаў. Я б, напрыклад, не ставіў так рашуча знак роўнасці і не рабіў бы такіх высноў.

Артыкул аб дзяржаўнай мове будзе дапрацоўвацца, таксама як і артыкул аб сімвалах дзяржавы. Пра сувязь паліцэйскіх з бел-чырвона-белым сцягам — чута-перачута. Лявон Баршчэўскі нагадаў, што цяперашнім расійскім сцягам карысталіся ўласаўцы.

Не лішне зазначыць, што і пад чырвоным сцягам рабілася нямала злачыннага ў адносінах да людзей.

Не хапіла некалькіх галасоў для прыняцця артыкула аб магчымасці смяротнага пакарання. Хоць за неабходнасць яго агітаваў Старшыня Вярхоўнага Савета. Ёсць такія выпадкі, гаварыў ён, што нельга ўявіць нейкае іншае пакаранне ў адносінах да нелюдзей...

У цэлым жа першыя два дні разгляду праекта Канстытуцыі дэманструюць, што палітыкі разумеюць: законы не павінны затоптваць у гразь чалавечую годнасць. Праўда, у адных гэта разуменне набывае адценне ўяўленняў учарашняга дня, другія глядзяць у будучыню.

*Бизнес и политика*

## За рынок придется повоевать

**В Минске подписано соглашение о создании Белорусской Конфедерации промышленников и предпринимателей.**

В нее вошли три наиболее крупные общественные организации, объединяющие основную массу производственников и предпринимателей: Белорусская научно-промышленная ассоциация, Белорусский союз предпринимателей и арендаторов и Союз предпринимателей Республики Беларусь.

Кроме защиты экономических и социальных интересов своих членов целью Конфедерации будет формирование и развитие цивилизованных рыночных отношений. Как дали понять организаторы нового объединения, оно будет активно заниматься и политической деятельностью, особенно в период подготовки к новым выборам в парламент республики.

**Владимир БОРИСОВ.**

## Чаму я пачынаю дзень з "Народнай газеты"?

**Аляксей Ануфрыевіч ДУДАРАЎ, драматург, рэдактар часопіса "Мастацтва", старшыня Саюза тэатральных дзеячаў Рэспублікі Беларусь:**

— "Народная газета" — прыстойная газета. У яе цудоўныя заснавальнікі — сумленнасць, годнасць, прафесіяналізм. Правільна, бываюць памылкі, але галоўнае, што, калі я разгортваю яе, мне не хочацца потым "вымыць" рукі ад таго бруду, да якога дакранаешся, калі чытаеш іншыя выданні. У вас хапае розуму і гонару публікаваць нават тыя меркаванні і ацэнкі, якія разыходзяцца непасрэдна з вашым пунктам гледжання. "Народная", на маю думку, — узор таго, якой павінна быць прэса. Я ўпэўнены, што, нават калі Станіслаў Шушкевіч дапусціць памылку, вы сумленна і спакойна скажаце пра гэта чытачам. Вядома, я выпісаў "Народную" на наступнае паўгоддзе. І тыя структуры, якія я зараз узначальваю — СТД і часопіс, — таксама падпісаліся на яе. А як жа!



## Почем валюта?

**С 20 мая Национальным банком установлены курсы иностранных валют**

| | Единый курс | Курс инвест. | К долл. США |
|---|---|---|---|
| 1 австрал.доллар | 1,036.93 | 208.08 | 1.4418 |
| 1 австр.шиллинг | 131.44 | 26.38 | 11.3740 |
| 1 фунт стерлинг. | 2,290.63 | 459.66 | 0.6527 |
| 10 бельг.франков | 449.89 | 90.28 | 33.2303 |
| 1 немец.марка | 924.66 | 185.55 | 1.6168 |
| 1 голлан.гульден | 824.51 | 165.45 | 1.8132 |
| 1 датская крона | 240.59 | 48.28 | 6.2139 |
| 100 итал.лир | 101.16 | 20.30 | 1,477.8569 |
| 1 канад.доллар | 1,170.71 | 234.93 | 1.2770 |
| 1 норвеж.крона | 218.06 | 43.76 | 6.8559 |
| 1 доллар США | 1,495.00 | 300.00 | 1.0000 |
| 1 фин.марка | 269.23 | 54.03 | 5.5529 |
| 1 франц.франк | 274.37 | 55.06 | 5.4488 |
| 1 шведск.крона | 203.79 | 40.90 | 7.3360 |
| 1 швейцар.франк | 1,018.04 | 204.29 | 1.4685 |
| 10 японск.йен | 134.33 | 26.96 | 111.2931 |
| 1 ЭКЮ | 1,804.47 | 362.10 | 0.8285 |
| 10 испанск.песет | 121.10 | 24.30 | 123.4517 |
| 10 греч.драхм | 68.27 | 13.70 | 218.9831 |
| 1 ирландск.фунт | 2,249.98 | 451.50 | 0.6645 |
| 1 исландск.крона | 23.64 | 4.74 | 63.2403 |
| 1 кувейт.динар | 4,976.37 | 998.60 | 0.3004 |
| 10 ливанск.фунтов | 8.63 | 1.73 | 1,732.3291 |
| 10 португ.эскудо | 96.26 | 19.32 | 155.3085 |
| 1 сингап.доллар | 926.44 | 185.91 | 1.6137 |
| 10 турецк.лир | 1.50 | 0.30 | 9,966.6667 |
| 1 эстонск.крона | 115.58 | 23.19 | 12.9348 |
| 1 СДР | 2,113.95 | 424.20 | 0.7072 |
| 1 российский рубль | 2.00 | | |
| 1 укр.карбованец | 0.40 | | |
| 1 литовский талон | 2.98 | | |
| 1 латвийский рублис | 11.25 | | |

**Курс клиринговых валют**

| | |
|---|---|
| 1 доллар США по расчетам с Кубой | 300.00 |
| 1 доллар США по расчетам с ЧСФР | 300.00 |

*Ракурс*



*Кветкі.*

Фота Сяргея БРУШКО.

*Журналісцкія сустрэчы*

# "Трымаем кароў, свіней і авечак, каб і сваіх дзяцей падтрымаць, і чужых...",

## — гавораць пенсіянеры Лявон Анісімавіч і Валянціна Лук'янаўна МАНДЗІКІ з вёскі Боркі Мастоўскага раёна

**Павел Стасевіч**

У гэтую вёсачку журналісцкія дарогі прывялі мяне напачатку вясны. Было яшчэ сцюдзёна, гразка, няўтульна.

На двары Мандзікаў — галоўных жывёлаводаў Борак (столькі жыўнасці, як гэтыя ўжо састарэлыя людзі, не трымае тут ніхто) — сярод наўкольнай шэрасці чырванеў трактарок з паднятым капотам.

— Рамонт! — цяжка ўздыхнуў гаспадар. — Не спрацаваў масляны насос, заклініла. Добра, што хлопцы з раённай "Сельгастэхнікі" дапамаглі, а то б стаяў на прыколе доўга...

А трактарчык, па словах Лявона Анісімавіча, нехта мусіць сурочыў — такой тэхніцы на вёсцы зайздросцяць многія.

— О, зараз такі прыдбаць кожны марыць! Лепш за легкавушку: заліў саляры — і едзь куды хочаш. Я нават на базар, калі што-якое, на ім кірую...

І трактарчык гэты (Т-25), зразумела, у Мандзікаў як член сям'і — без яго ў гаспадарцы нікуды. Ды і "біяграфія" ў тэхнікі не абы-якая — у самога міністра сельскай гаспадаркі рэспублікі Фёдара Уладзіміравіча Мірачыцкага "выбіў" яе гаспадар.

— Зайшоў я, значыцца, у кабінет і кажу. Так і так, Уладзіміравіч, не ўпраўляемся мы з бабаю са сваёй скацінкаю без тэхнікі аніяк: і накасіць трэба, і высушыць, і прывезці... І міністр, дай Бог яму здароўя, мяне хутка зразумеў: не трэба, кажа, доўга расказваць — па руках усё бачу...

"Выбіты" трактарчык трохі загаіў раны і Лявона Анісімавіча, і Валянціны Лук'янаўны з нагоды былой вялікай крыўды — "пракінулі" іх недзе ў лабірынтах улады наконт легкавушкі.

— Першымі на машыну стаялі па здадзенаму мясу, меркавалі яшчэ ў трэцім квартале 1988 года атрымаць — ды нічога так і не дачакаліся. Можа, і самі трохі вінаватыя — трэба было неяк паварушыцца, пабегаць... А зараз што — дзе тую праўду і тыя грошы знойдзеш... — са скрухаю давяралі сваю праўду гаспадары журналісту. — Эх, не паважаюць у нас простага чалавека...

І такі падман дзяржавы, бачу, дагэтуль не дае спакою Лявону Анісімавічу.

— Мне ж, халера яго, як паабяцалі машыну, дык і вучыцца адразу адправілі, каб на правы здаў. І я ўжо пэўны быў наконт легкавушкі — на тыя заняткі за дваццаць пяць кіламетраў гойсаў, бы малады. А тут — на табе...

Але ж час лечыць і не такія раны. Маючы "жалезнага каня", легкавушка паступова забываецца. Дый спраў штодня — не пераробіш. А здароўе ўжо, як ні кажы, а не тое. Дзесяцігоддзямі "сядзеў" на калгасным трактары Лявон Анісімавіч, усё жыццё, лічы, даіла кароў на ферме ў Ліхінічах Валянціна Лук'янаўна. І яшчэ — адзінаццаць гадоў пасля пенсіі.

А вярнуўшыся з калгаснай працы, рупіла ж і свая. Ды яшчэ як! Па праўдзе кажучы, калі глянеш, што трымаюць на падворку пенсіянеры Мандзікі, то сам сабе не раз падумаеш — тут і не ўсякі малады справіцца. Каровы, цялушкі, бычкі, свінні, авечкі, куры, гусі, індыкі... — усё праходзіць праз рукі гаспадароў. Не называю тут колькасці — кожны год яна мяняецца: то шэсць кароў, то пяць... Пра курэй-гусей і гаворкі няма — гаспадары самі ў ліку збіваюцца. Акрамя некалькіх тон малака-мяса летась, напрыклад, здалі дзяржаве яшчэ трыццаць тон буракоў і тры с паловаю — цыбулі...

— Скажу каму, што столькі жыўнасці пад старасць трымаем, — не кожны верыць, — уздыхае гаспадар. — А мы ўжо з Лук'янаўнай без працы не можам — уцягліся за ўсё жыццё. Можа, і не па-сучаснаму што робім, не па навуцы — але ж як умеем.

— Дый, прызнаюся, дзеткам дапамагчы яшчэ хочацца, — проста дадае да гаспадаровых слоў гаспадыня. — У кожнай жа маці за іх душа баліць. А ў нас жа іх пяцёра. І ўсе — у горадзе...

Пасля гэтых слоў размова наша на нейкі час заціхае. Першым не вытрымлівае маўчання Лявон Анісімавіч.

— Эт, чорт яго дзяры, нашыя парадкі! Так жа хацеў, каб сыны на гаспадарцы, на зямлі засталіся — не выходзіць пакуль. Ды й ці ж мы ў гэтым, падумаўшы, вінаватыя? Адвучыла ўлада людзей ад зямлі. То з падворкаў усё забіралі, то "палачкі" калгасніку плацілі, то вёску нашу неперспектыўнай зрабілі. Во, глянь-це наўкола: школы няма, многія хаты з забітымі вокнамі, прадаюцца грамадзянам на дачы. А што селяніну застаецца?..

Прыпомніў Лявон Анісімавіч і крыўду, якая вырасла пасля размоў з многімі вяскоўцамі ў рэйсавых аўтобусах на Масты — едуць людзі за малаком-хлебам-мясам у горад...

— Во да чаго давялі краіну! І, галоўнае, назад людзей не павернеш. Пытаюся ў аднаго — чаму скацінку не трымаеш? А ён і гаворыць: а навошта тых свіней карміць? Прадам пару тон бульбы — і куплю тую свінню, навошта яе гадаваць?

Во, як людзі думаюць. Можа, яны трохі хітрэйшыя... Але ж хто тады таго мяса-сала на ўсіх нагадуе? Мы з бабаю?..

— Пакуль, выходзіць, Лявон, што так, — перабіла мужа Валянціна Лук'янаўна. — Не лезь ты, крый Божа, у палітыку. А мяса мы нагадуем — і сваім дзеткам будзе, і чужым...

Эх, матчына сэрца! Відаць, аднолькавае ты ва ўсім свеце — і на Беларусі, і ў Англіі, і ў Амерыцы. Розніца толькі ў тым, што там за працаю і свет людскі бачаць, і жывуць па-людску, а ў нас — усё жыццё працуй, чалавеча, а дастатку можаш і не пабачыць. Укрансці ў дзяржавы, дальбог, нават выгадней.

Аб усім гэтым мы філасофствуем з Анісімавічам, трасучыся на Т-25 да райцэнтра. "Удобств", як кажуць, — мінімум, але ж — едзем! А то б мне зусім заначаваць прыйшлося б — аўтобус у Боркі заходзіць зранку і ўвечары.

Ды яшчэ рашаем па дарозе "свет паглядзець". Спачатку Анісімавіч падкінуў мяне ў кантору мясцовага калгаса імя Адама Міцкевіча, дзе мы добра-такі паспрачаліся наконт "прав-неправ" Мандзік у некаторых жыццёвых сітуацыях; затым "рулявы" вырашыў пазнаёміць мяне з Канстанцінам Кірылавічам Новікам, старшынёю калгаса "Прагрэс" — "добры мой памочнік, выручае часта"; а потым, ужо ў Мастах, завярнулі мы ў райаграпрам — намеснік старшыні Міхаіл Іванавіч Маскевіч такіх людзей, як Мандзікі, разумее, падтрымлівае і таксама дапамагае, чым можа.

— Каб мы перабудову пачалі з вёскі ды далі волю і паспрыялі такім вось людзям, асабліва маладзейшым, — наконт прадуктаў, мяркую, праблем ужо не было б, — сказаў Міхаіл Іванавіч. — А зараз я трывожуся. Асабліва за жывёлагадоўлю — у гаспадарках пагалоўе змяншаецца на вачах. А скацінку ж выгадаваць трэба, гэта ж не купіць-прадаць! Ды часу шмат дай. Так што падыход, думаю, зараз павінен быць такі: хоча і можа чалавек мацаваць свой асабісты падворак — трэба дапамагчы яму, чым магчыма. І не лічыць у яго кішэні лішнюю капейчыну — такой працы, калі сам паспытаеш, не пазайздросціш...

Над Мастамі плылі кускаватыя шэрыя хмары, моцніўся вечар, зноў нешта халадала.

— Нічога, па дарозе сагрэешся, — хітра падміргнуў мне на развітанне Анісімавіч, ківаючы на журналісцкую камандзіровачную сумачку.

Я памацаў яе рукою і здагадаўся: калі ад'язджалі з Борак, Лук'янаўна ўсё ж падсунула госцю бутэльку.

Мандзік пачаў заводзіць свайго трохі капрызнаватага "каня", а я тым часам падсунуў "Пшанічную" ў кабіну — спатрэбіцца гаспадару, калі паедзе "талкаваць" з добрымі хлопцамі ў раённай "Сельгастэхніцы".

Ды ці мала зараз іншых патрэб у чалавека ў звычайнай беларускай глыбінцы?..

**Мастоўскі раён — Мінск.**

*Как сберечь ваши деньги?*

# Ставки подняты!

**Как сохранить сбережения при инфляции? Об этом корреспондент "Народной газеты" беседует с начальником отдела депозитов и ценных бумаг минского регионального банка "Комплекс" Любовью Курилиной.**

**— Почему в середине весны банки вдруг дружно стали поднимать процентные ставки по вкладам граждан?**

— Это вызвано конкурентной борьбой за клиентов. Ведь Сбербанк перестал быть монополистом...

**— Но практически все предлагают почти одно и то же, с небольшими, правда, разбежками. Как выбрать, куда именно положить накопленные рубли?**

— Следует понять, что одних интересует, далеко ли банк находится от дома, работы, других — какие конкретные виды услуг там предоставляют, третьих — надежность и стабильность банка. Подобные факторы нельзя не учитывать. Но главное все же — экономические показатели. В газетах к тому же печатаются периодически банковские балансы, годовые итоги. "Комплекс" за прошлый год, например, увеличил свой уставный капитал в 18,6 раза. Причем только за счет собственной прибыли.

Высокие у "Комплекса" и процентные ставки. За три месяца ваши сбережения вырастут на одну треть, за год —утроятся... Сейчас внедряем и такой вид услуг: когда снимаешь деньги со счета, то можешь взять сумму не в рублях, а в валюте по действующему на данный день курсу. Естественно, с набежавшими процентами. Увеличиваем сеть пунктов по приему вкладов граждан.

**— Чем еще занимается банк?**

— Как и прежде, покупаем и продаем СКВ через множество своих валютных пунктов, причем обслуживаем практически 60 процентов рыночного сектора. Выдаем ссуды под залог имущества.

**— Но, пожалуй, самый важный вопрос: выгодно ли нести в банк деньги при нынешней дикой инфляции?**

— А почему бы и нет. Покупать вещи сейчас, кстати, не так уж и прибыльно, особенно для перепродажи. Так что может оказаться гораздо более разумным положить свободные средства в банк, даже на короткое время — 3—6 месяцев. Смотришь — накопится на отпуск, подарок, покупку. Да и не забывайте об общей пользе — рубли "поработают" и принесут доход не только вкладчику, но и тем, кому они будут даны в кредит. Ведь эффективной экономика станет лишь тогда, когда вырастет оборачиваемость денег.

**— Какие на перспективу планируете новшества?**

— Для постоянных клиентов банка планируем увеличивать процентную ставку по частным вкладам на 2—3 процента, если по их рекомендации к нам придут открывать счет 5—10 человек. Будем заниматься и всеми видами операций с акциями, облигациями и другими ценными бумагами. Задумок много. Но работа банка оценивается, естественно, не по красивым словам, а по выполненным обязательствам. Так что лучше меньше, но точно.

*Прыслухайцеся!*

## Мы павінны зберагчы родную мову!

1 верасня споўніцца тры гады, як уступіў у дзеянне Закон аб мовах. Аднак можна сказаць, што дзяржаўныя структуры не вельмі імкнуцца да выканання гэтага Закона. Пачалі раздавацца галасы аб неабходнасці ўзаконіць двухмоўе, гэта значыць, як мы лічым, канчаткова даць рускай мове выцесніць беларускую. Гэтага рабіць нельга. Інакш чым мы дакажам свету, што ў нас беларуская дзяржава? Падругое, гэта было б несправядліва, бо акрамя рускіх на Беларусі жыве шмат украінцаў, палякаў, прадстаўнікоў іншых народаў. Яны ўжо заявілі (у прыватнасці, палякі), што, калі будзе аб'яўлена дзяржаўнай і руская мова, будуць патрабаваць такога ж становішча і для польскай. Гэтак жа і з украінскай. Значыць, ужо чатыры мовы трэба аб'яўляць дзяржаўнымі! Але гэта канчаткова загубіла б беларускасць і падарвала б дзяржаўную незалежнасць. Між тым ніхто, акрамя асобных груповак, не супраць, каб была адна дзяржаўная мова — беларуская (пры роўных правах на карыстанне ўсімі астатнімі). Ды беларуская мова і зразумелая народам, якія пераважна складаюць нацыянальныя меншасці на Беларусі, — рускім, украінцам, палякам і інш.

Просім Вярхоўны Савет, народных дэпутатаў ні ў якім выпадку не ўводзіць двухмоўе, дзяржаўнай мовай павінна быць на Беларусі беларуская, і не патрэбны наконт гэтага рэферэндум.

Жыхары Камянца і раёна:

**І.Жытко, Н.Мядзведская, К.Жарко і інш. (усяго 48 подпісаў).**

*Криминал*

### Вместо долларов — наручники

Каково было удивление работников отдела по борьбе с организованной преступностью Гродненского УВД, когда в одном из рэкетиров они узнали ассистента кафедры Гродненского мединститута. Он вместе с учащимся техникума и одним из неработающих пытался изъять у директора одного малого предприятия 15 тысяч долларов.

Что и говорить, жить красиво хочется и людям от науки.

### Хотите пушку — езжайте в Гродно

Невозможного в жизни нет — решили трое военнослужащих одной из частей и пошли в деревню Дмитриевку. Там совсем за бесценок продали почти 700 боевых патронов и... были задержаны.

В казарме, как оказалось, они припрятали еще 20 снарядов к 23-миллиметровой пушке...

**Адам ОСТАША.**

*После пожара*

# В "Заславском" будет все нормально?..

**О том, как не надо руководить коллективом и к чему приводит бесконтрольное самоуправство, наша газета на днях рассказала в статьях "Беспредел" (номер за 15 мая) и "Ночной пожар" (18 мая).**

В среду, 19 мая, в совхозе состоялось собрание, на котором люди еще раз обсудили проблему, как жить дальше.

К этому времени Минский райисполком уже определился с директором И.Рассадко — от должности он освобожден. Райисполком как собственник предложил на этот пост свою кандидатуру — Анатолия Михайловича Зезетко, ранее в этом хозяйстве работавшего.

Однако с назначением и "привозом" люди, несмотря на уговоры, не согласились. Руководителя надо выбирать, причем тайно, из нескольких кандидатур — вот общее решение. В пару А.Зезетко был предложен главный агроном совхоза Александр Васильевич Ласевич, сумевший объединить людей в борьбе за свои права и за это пострадавший — подожжен его дом.

Итог выборов: с перевесом в два голоса победил А.Зезетко. Решение, думается, на данный момент взвешенное: А.Ласевичу при таком раскладе и противодействии "верхов" руководить было бы очень сложно. Что же касается А.Зезетко, то, судя по его послужному списку и образованию, деловой хватки ему не занимать.

— Думаю, что в этом конфликте проигравших мало, — сказал Александр Ласевич. — Мы и самим себе, и другим доказали силу объединившихся людей. Помыкать нами будет уже трудно. Так что я надеюсь на спокойную работу и взаимопонимание.

Говорили люди на собрании и о поджоге. Дикость и глупость. Преступников надо найти, чтобы другим неповадно было — вот общая настроенность.

Конфликт в "Заславском" резонанс получил широкий — были пресса, радио, телевидение. Выступили на собрании народный депутат Беларуси Сергей Антончик, лидер Белорусской крестьянской партии Евгений Лугин.

В общем, совместными усилиями "пожар" в совхозе притушен. Будем надеяться, что пламя здесь больше не возгорится, и желаем и коллективу, и новому руководителю спокойствия, здоровья и благоразумия.

**Павел СТАСЕВИЧ.**



*Напярэдадні падзеі*

## Калі алкаголікі разважаюць цвяроза

**22 мая ў памяшканні Інфармацыйна-культурнага цэнтра (вуліца Кастрычніцкая, 6) адбудзецца вялікі сход, прысвечаны трэцяй гадавіне руху ананімных алкаголікаў у нашай рэспубліцы.**

У ім разам з прадстаўнікамі ўлад і беларускіх згуртаванняў ананімных алкаголікаў прымуць удзел госці з краін СНД, ЗША, дзяржаў Балтыі. На сход запрашаюцца ўсе, хто трапіў у пастку "зялёнага змея", але марыць вырвацца з яе, а таксама іх сваякі і сябры, якім неабыякавы лёс блізкіх людзей.

**Галіна КАШТАНАВА,** *Мінск.*

*Ці чулі?*

## Салдацкая вывучка правяраецца на палігонах

**Завяршылася веснавая кантрольная праверка ў 28-й агульнавайсковай арміі Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.**

Высокае майстэрства, веданне тэхнікі, зброі, прыёмаў сучаснага бою паказаў асабовы састаў часцей і падраздзяленняў на палігонах і танкадромах, стрэльбішчах і ў вучэбных класах. Выдатную вывучку прадэманстравалі, напрыклад, танкісты і матастралкі, воіны іншых спецыяльнасцей гвардзейскай механізаванай брыгады, якія ўпершыню трымалі экзамен у новай арганізацыйна-штатнай структуры.

*г.Гродна.*

**Белінфарм.**

*Навіны культуры*

### Згодны толькі на гран-пры

Як незалежны рэжысёр павёз сваю новую стужку на 8-ы Міжнародны фестываль дакументальных фільмаў у Мюнхене вядомы ў Беларусі кінамайстар Юрый Хашчавацкі. І вярнуўся дамоў з гран-пры "За нестандартнае вырашэнне нацыянальнай тэмы, майстэрства, вытанчанасць, гумар і аптымізм". Яго фільм "Усё добра", паводле слоў аўтара, — расказ без пакут аб тых, хто ад'язджае ў Ізраіль, і аб яўрэйскай культуры. Сааўтары рэжысёра па гэтай рабоце — сцэнарыст Вадзім Співак і прадзюсер Аляксандр Страбыкін з палтаўскай фірмы "Індыкт", якая стала калектыўным членам Беларускага фонду дапамогі развіццю культуры.

### Зноў пракі не на Бацькаўшчыне

У другі раз знайшліся прарокі ў далёкай і спякотнай Іспаніі. І зноў паабяцалі яны цудоўную будучыню беларускай нацыянальнай оперы, назваўшы яе салістку Наталлю Кастэнка адным з лепшых сапрана свету і параўнаўшы Марата Грыгорчыка з супертэнарам Лучана Паварoці. Аб сваіх новых уражаннях ад паездкі па пяці іспанскіх гарадах салісты, музыканты і кіраўнікі опернай трупы расказалі журналістам на прэс-канферэнцыі. Удакладнілі, што на другія іспанскія гастролі наўмысна былі выбраны стары спектакль "Мадам Батэрфляй" Пучыні і незвычайны для тэмпераментнага гледача Пірэнейскага паўвострава спакойны "Яўген Анегін" Чайкоўскага. Але і той, і другі сустракаліся "на ўра", а крытыка газет горада Валенсія адзначала нават, што нічога падобнага тут не чулі ўжо шмат гадоў. У заключэнне спевакі і музыканты сумна паведамілі, што іх ружовай марай застаюцца ўсё ж аншлагі ў сябе дома.

### 1:15 не на карысць гледача

Абыходзяць сваёй увагай мінчане, а тым больш госці горада прэм'ерны спектакль на малой сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Дзе пісталет, мама?". Дзве цудоўныя актрысы — Таццяна Аляксеева і Святлана Некіпелава іграюць максімум для 15 гледачоў. Але ад гэтага не становяцца меншымі пачуцці іх герояў, не перастае захапляць сюжэт драмы ў старым доме непадалёку ад дарогі, якая апавядае аб каханні і адзіноце, аб надзеі безвыходнасці, карацей кажучы, — аб сапраўдным жыцці. Але калі хто-небудзь мяркуе, што ў выніку ненапоўненасці залы пацярпелі актрысы або мастацкі кіраўнік тэатра і пастаноўкі Валерый Раеўскі, а таксама рэжысёр Артур Ільіных, то ён вельмі памыляецца. У пройгрышы аказаліся грамадзяне, якія правялі цудоўны майскі вечар перад тэлевізарам з "Мачыхай".

**Падрыхтавала Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, Белінфарм.**



